РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА: БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, ШАРКОЎШЧЫНА.

*Жыве Беларусь!*

# ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ

Free Hlybokaye — Wolne Glebokie

*Дык жа ўцям! На Беларусі -- беларусы жывуць!*
*Янка Купала.*

Выдаецца са снежня 1994 года | №12 (44), чэрвень, 2000 года | Кошт па дамове



Фота А. Ліціна

Нашы рэаліі: бедна, але з песнямі?

## Вялікі прадказальнік з Глыбокага

Яшчэ ў №1(6) за сакавік 1997 г. наша газета ў артыкуле «Што прадказана -- збылося» пісала пра Пятра Глаўніцкага, які жыў у Глыбокім яшчэ за «польскім часам». Задоўга да дня сённяшняга ён прадказваў, што «... з'явіцца другі Напалеон, які пойдзе на Маскву і загіне шмат яўрэяў». Сапраўды, з'явіўся Гітлер, які распачаў Сусветную вайну, якая стала знішчальнай для многіх народаў. Другое яго прароцкае выказванне тычылася нашых часоў: «Расея разваліцца, ад яе застанецца сем губерняў. Масква зарасце крапівай, Беларусь стане самастойнай краінай, але мы (яго пакаленне, -- кар.) да гэтага не дажывём. Далейшае прадказанне: «Гэта будзе нядоўга, бо выберуць беларусы свайго цара, а ён іх прадасць чужынцам...». Пётра Глаўніцкі памёр, не дажыўшы да самастойнасці Беларусі, час якой прыпадае на 1990 -- 94 гг. Далей наконт Беларусі ўсё спраўдзілася, як і наконт Расіі. Нядаўна абраны прэзідэнт Расіі У. Пуцін падзяліў дзяржаву на сем «вертыкальных» акругоў, якія супадаюць з межамі сямі акругоў ваенных. Што будзе далей -- пабачым, але відавочна, што наш глыбачанін не дурней вядомых заходніх прадказальнікаў. Ведай нашых, глыбоцкіх!

*У. Скрабатун*

## Адным радком

Беларуска-расійская ваенная групіроўка будзе фарміравацца на мабілізацыйнай аснове і толькі на час канфліктных сітуацый,-- заявіў А.Лукашэнка 17 мая ў Мінску пад час сустрэчы з У. Земскім.

⊠ ⊠ ⊠

З цягам часу мы будзем вяртацца да ваенна- прамысловых заказаў,-- такую сенсацыйную заяву зрабіў старшыня Гомельскага аблвыканкама М.Вайцянкоў на сустрэчы з дэлегацыяй Таймырскага нацыянальнага округа Расіі 13 мая.

⊠ ⊠ ⊠

Па-свойму адзначыла апазіцыя День дзяржаўнага герба і сцяга РБ. У Віцебску ноччу чырвона-зялёныя сцягі былі заменены на бел-чырвона-белыя. Замена адбылася на доме № 64 па Маскоўскаму праспекту, на будынку магазіна № 144, на доме № 6 па праспекту Чарняхоўскага. У 9[30] крамола была сарвана і знішчана работнікамі міліцыі.

⊠ ⊠ ⊠

Дзеці сёння складаюць 20% насельніцтва краіны. Калі і далей узровень нараджальнасці не павялічыцца, праз год дзесяць колькасць дзетак зменшыцца да 13-15%. У 1999г. у Беларусі нарадзілася каля 93 тысяч дзяцей, што на 50 тысяч менш, чым у 1990 годзе.

⊠ ⊠ ⊠

Упершыню за паўвекавую гісторыю Докшыцкага народнага тэатра тут прайшлі адразу дзве прэм'еры па п'есах мясцовых аўтараў. Гледачы з задавальненнем пагледзелі спектакль на маральна-этычную тэму «Не свая віна», якую напісаў інспектар РАА, ён жа адзін з выканаўцаў Фёдар Палачанін. Другая п'еса, напісаная журналістам Вікенціем Карповічам « Пастка для пракурора» таксама мела поспех.

⊠ ⊠ ⊠

Міліцыянер, які спрабаваў ліквідаваць сямейную разборку ў адным з сёл на Браслаўшчыне, знайшоў у хаце карабін і патроны.

⊠ ⊠ ⊠

У вёсцы Гуменікі Пастаўскага раёна 5-гадовыя хлопчык і дзяўчынка на сене гулялі з запалкамі. Успыхнуў пажар, у якім дзеткі загінулі.

⊠ ⊠ ⊠

Толькі за тыдзень з 24 па 30 красавіка ў Беларусі ўтапіліся 33 чалавекі. За апошні тыдзень мая да гэтай лічбы дадалося яшчэ 13 чалавек.

⊠ ⊠ ⊠

За перыяд ваенных дзеянняў у Чачні загінулі 2233 салдаты, больш 6 тысяч паранена, ёсць прапаўшыя без вестак.Каму патрэбна тэрытарыяльная цэласнасць за такі кошт?

⊠ ⊠ ⊠

За першы квартал 2000 г. у воінскіх часцях Беларусі зарэгістравана 126 злачынстваў. Сярод іх злоўжыванні службовым становішчам,хабарніцтва, крадзеж, «дзедаўшчына».

## ЦЫТАТА НУМАРА

**З прэсай мы павінны дзейнічаць такім чынам... мы яе асядлаем і туга зацягнем лейцы; тое самае мы зробім з усёй астатняй друкаванай прадукцыяй... Ніхто не павінен беспакарана датыкацца арэола нашай урадавай непагрэшнасці... Мы заўсёды будзем атрымліваць перамогу над нашымі працаўнікамі, так як у іх распараджэнні не будзе органаў друку, дзе яны маглі б цалкам выказаць свае думкі.**

*«Пратаколы сыёнскіх мудрацоў», 1905 г.*

## Пацярпелі за дабрыню

**19 жыхароў Глыбокага па сваёй добрай волі пазбавіліся значных асабістых зберажэнняў. У свой час усе яны пазычалі розныя сумы ад ста да сямі тысяч долараў былой начальніцы раённага Глыбоцкага прадстаўніцтва Фонда сацыяльнай абароны Ганне Васькові.**

Жанчына, якая, бясспрэчна, валодала акцёрскім талентам, слёзна прасіла сваіх сяброў і знаёмых пазычыць пэўную суму ў валюце быццам бы для лячэння дачкі і іншых добрых мэт. Для вернасці пісала распіскі і завярала іх службовай гербавай пячаткай. Колькасць даверлівых людзей расла. За іх кошт жанчына часткова аддавала працэнты ад пазычаных сум, але даўгі вярнуць не збіралася. А між тым свае кроўныя «ахвяравалі» ёй некаторыя камерсанты,важныя чыноўнікі раённага звяна, працуючыя і былыя, проста знаёмыя, якія прызвычаіліся давяраць не чалавеку, а гучнай пасадзе, ад якой чалавек часта залежыць. Кемлівая начальніца «выбівала» нязначныя сумы з даверлівых прама на хаду. Бачыла, напрыклад, у горадзе знаёмую, падыходзіла і з наскоку пыталася: «Можа пазычыш сто долараў? Халадзільнік сабралася купіць, а грошай няма. Дай на пару дзён пакуль перакручуся». У большасці выпадкаў «мізансцэна» спрацоўвала: гаспадар тыя сто долараў і сёння не бачыць.

Тры гады працягвалася гэта трагікамедыя, якая прынесла Г.Васьковіч 21 тысячу 275 долараў прыбыткаў. За ўсё жыццё сумленнай працай столькі не заробіш. На гэткія грошы не тое, што дачку вылечыш, але і ўсё неабходнае ёй справіш.

Толькі зразумеўшы куды яны «ўляпаліся», абманутыя глыбачане звярнуліся ў пракуратуру. На «дорогую» Ганну Сяргееўну завялі крымінальную справу і ў свае 58 год ёй прыйшлося на 7 год перасесці са службовага кабінета ў ІТК агульнага рэжыму і пазбавіцца нажытай маёмасці. Яе касацыйную скаргу калегія аблсуда пакінула без змен. Вось і вер пасля гэтага, здавалася б, аўтарытэтным знаёмым чыноўнікам і іх распіскам з гербавай пячаткай.

*Я.Савойка*

Чаму ўведзены новыя знакі?

## «Падарунак» аўтауладальнікам

Сярод аўтауладальнікаў расце незадаволенасць: зноў трэба мяняць рэгістрацыйныя і знакі адрознення машын... Звязана гэта перш за ўсё з ростам аўтапарка рэспублікі. Згодна дзяржстандарту, зараз лічбаў-літар будзе сем ці восень. Колькасць тыпаў рэгістрацыйных знакаў павялічылася з 9 да 25, а ўвесь транспарт падзелены на 4 групы.

На машынах індывідуальных уладальнікаў, а таксама юрыдычных асоб Беларусі будуць номеры знешне падобныя з ранейшымі, але літар будзе тры і размешчаны яны будуць пасля 4 лічбаў. Напрыклад, 1746 МАН. Па цэнтру маецца гарызантальны надпіс «BELARUS» і элементы нацыянальнага арнамента.

Масавай кампаніі замены знакаў не будзе, усё адбудзецца паступова,пры рэгістрацыі і перарэгістрацыі машын. Номер са светлаадлюстравальнай паверхняй будзе каштаваць даражэй чым звычайны--14,5 тыс. рублёў плюс расходы на рэгістрацыйныя дакументы. Але ёсць і катэгорыя льготнікаў. Замена знакаў і тэхпашпартаў для тых, хто атрымаў свае аўтамабілі бясплатна ці за частковую плату ў органах сацыяльнай абароны, робіцца бясплатна. Пенсіянеры, ветэраны вайны плацяць 50% кошту.

*В.Патапенка, супрацоўнік УДАІ МУС РБ*

## Хутка «Славянскі базар»

Фестываль у Віцебску пройдзе сёлета з 3 па 11 ліпеня. Да ўдзелу запрошаны 4,5 тысячы чалавек, якія будуць прадстаўляць 31 краіну. Сёлета кожная краіна прадставіць свае канцэрты ў Дні культуры. Так, Расія пакажа зорак балета, Украіна -- майстроў опернага мастацтва, Беларусь-- фальклорнае свята «У ноч на Івана Купалу».Адбудзецца конкурс маладых выканаўцаў, міжнародны фестываль-конкурс дзіцячых канцэртных праграм з удзелам 23 калектываў з 20 краін, міжнароднае свята фальклора, кінапраграма. Мяркуецца, што ўдзел у «базары» прыме негрыцянскі джазавы аркестр з Нью-Арлеана і знакамітыя «менты» з тэлесерыяла «Вуліца разбітых ліхтароў».

У рамках праекта «Тэатральныя сустрэчы -- 2000» віцябчане і госці горада пагледзяць лепшыя спектаклі з удзелам С. Юрскага, Л. Ахеджакавай, М.Няёлавай, Л.Палішчук, М. Карачанцава. У рамках свята пройдуць Шагалаўскі і Рэпінскі пленеры, музыкальныя сустрэчы, прысвечаныя І. Салерцінскаму. З сольнымі праграмамі выступяць Ала Пугачова, Алег Газманаў, Мікалай Баскоў, група «Машына часу». Чакаецца вялікі канцэрт аўтарскай песні. Білеты пачнуць прадавацца ў канцы мая -- пачатку чэрвеня. Кошт іх у параўнанні з леташнім годам, знізаны. Самы дарагі білет будзе каштаваць 12 тыс.рублёў, самы дзешавы--500 рублёў. У сярэднім жа кошт білетаў 5 -- 10 тыс. рублёў.

*М.Крыжаноўскі*

Глeдзячы з Глыбокага

# Гібель цывілізацыі
## лакальнага маштабу

Што такое тэлефон? Безумоўна, -- сродак камунікацыі, які дазваляе аператыўна, не выходзячы з дому, вырашаць надзённыя пытанні, наборам патрэбнага нумара абанента. Калі тэлефона няма -- гора, ды не проста гора, а -- катастрофа! Глыбокае, згодна кампетэнтных дадзеных, займае ледзьве не апошняе месца на Беларусі па тэлефанізацыі. Створана праблема для многіх тысяч жыхароў Глыбоччыны.

Мой знаёмы з Заварат, каб патэлефанаваць позна ўвечары ў Мінск дабіраецца чым заўгодна да Глыбокага (рэйсавы аўтобус «Глыбокае -- Ласкаўшчына» ходзіць праз дзень, а Дзеркаўшчынскае аддзяленне сувязі працуе да 17 гадзін), а потым пешшу 22 км. уночы ідзе дадому, бо «галасуй» не «галасуй» -- ніводная машына не спыніцца. Ды што ты Завараты! У Глыбокім не магчыма даць рады! Трэба тэрмінова позна ўвечары патэлефанаваць у Беразвечча. Іду да «легенды глыбоцкага гандлю зялёнага магазіна». На вуліцы цямнее. Па дарозе падазроныя асобы «просяць закурыць» ды яшчэ пагражаюць набіць морду, калі ў цябе не знойдзецца цыгарэты. Прыходжу да тэлефона-аўтамата... Дыск «заядае». Нумар немагчыма набраць. Трапляеш то ў пажарную ахову, то да нейкага Федзі, які пасылае на «тры вясёлых літары»...

У Польшчы ці Латвіі на кожным кроку стаяць тэлефонныя аўтаматы, з якіх можна патэлефанаваць не толькі сябру, які жыве за сто крокаў, але і таму які знаходзіцца ў Глыбокім ці Таронта або Тэль-Авіве.

Але ёсць і іншая праблема: многія ў Глыбокім маюць тэлефон, але толку з яго, як з казла малака. Трэба падключыць факс, вам кажуць: «У вас «АВУ» (тэлефон ад электрасенкі), факс не будзе працаваць». Прапаноўваюць карыстацца іхнім факсам. Іду на перагаворны пункт, а апаратар кажа: «Факс згарэў. Тэхніка -- японская, нашых зменаў напругі электрычнай сеткі не выносіць. Шукайце камерсантаў, якія маюць факсы, можа дапамогуць».

Во вяршыня сервізу!!! Так і хочацца вылаяцца. Мая справа заплаціць грошы за паслугу, а не хадзіць па прыватных крамах і шукаць «крутога», які, як заўсёды, з`ехаў за таварам у Санкт-Пецярбург ці Маскву і вернецца праз тыдзень.

Можа такая сітуацыя ўсюды? Зусім не.

-- У Паставах,-- казаў знаёмы,-- раніцой плоціш 14 «лімонаў», вечарам у цябе стаіць тэлефон. У нас нумары ўжо пачынаюцца з «пяцёркі». Тэлефоны, без усялякага блату паставілі і камуністам і нацыяналістам, і «правым» і «левым», бамжам і «крутым». Усім, хто меў грошы!

Запытаў калегу з Шаркоўшчыны.

-- Няма ніякіх праблем. Хто хацеў мець тэлефон, той і мае, без чаргі. Пытанне вырашаецца за дзень-другі.

У Докшыцкім раёне тое самае. Некаторыя нават адмаўляюцца ад тэлефонаў, бо не ў стане заплаціць за карыстанне... Там ёсць свабодныя нумары.

Выходзіць так: Глыбокае апынулася ў вялікай дупе. Спасылкі на тое, што «у нас людзі стаяць у чарзе па 15 гадоў», могуць прыняць толькі тыя ў каго «няма масла ў галаве». А ў тых, у каго яно ёсць, кажуць: «Навошта займацца развіццём тэлефоннай сеткі, калі зарплата ад гэтага не павялічыцца? Трэба без усялякіх клапот дапрацаваць да пенсіі».

Згодна прагнозаў, праз 2-3 гады ў наш дом увойдзе Інтэрнэт, так, як увайшло цяпер тэлебачанне. Удумайцеся ў гэтыя словы. Праз 2-3 гады!!! А людзі стаяць у чарзе на тэлефон па 15 гадоў!!! Выходзіць так, што Паставы, Шаркоўшчына і Докшыцы нас абскачуць за адзін дзень на 15 гадоў. Як тут можна маўчаць?! Без доступу да тэлефоннай сеткі выхад на Інтэрнэт немагчымы!

Толькі дзіву даешся наколькі наш народ затурканы. Тое, што ва ўсім свеце лічыцца будзёнасцю, у нас прадстаўляецца як нейкі падарунак лёсу. шчасце, узнагарода.

*Д. Шпак*

---

## ПАСТАВЫ -- ГЛЫБОКАЕ: ГІСТОРЫЯ ДАЛЁКАЯ І БЛІЗКАЯ

**Уладзімір ШЫК**
журналіст,
Паставы

# ЯНЫ БЫЛІ
## альбо Яшчэ некалькі лёсаў патрыётаў

**Заканчэнне. Пачатак у №11(43), 2000 год.**

### НЕ АДРАКЛІСЯ АД СВЯТОЙ ІДЭІ

Пэўны час патрыятычныя гурты ў Глыбокім і Паставах існавалі аднаасобна адзін ад другога. Толькі вясной 1946 года глыбачан наведалі М. Асіненка з В. Лагуцёнкам і дамовіліся аб`яднацца. Агульнай кіруючай структуры аднадумцы не стваралі, вырашылі толькі перыядычна ўзгадняць намаганні агульнага СБП. Але ўжо ў лютым 1947 пачаліся арышты. Падставай для гэтага сталі дзеянні афіцэра МГБ, які здолеў увайсці ў давер да сяброў Пастаўскай арганізацыі. Усяго было схоплена, а потым асуджана ў Мінску і Полацку 43 сябры патрыятычнай арганізацыі. Усе яны вытрымалі гады пакут і выпрабаванняў, толькі з 1992 года пачалі атрымоўваць індывідуальныя рэабілітацыі за адсутнасцю складу злачынства.

**Янка Рымдзёнак.** Нарадзіўся ў вёсцы Шкунцікі на Шаркоўшчыне. Вучыўся ў Глыбоцкім педвучылішчы, потым пераехаў ў Паставы. Ужо будучы настаўнікам арыштаваны за ўдзел у СБП. Тэрмін адбываў у лагерах на Калыме. Пасля вызвалення жыў у пасёлку Хасын паблізу Магадана. Далейшыя звесткі пра яго губляюцца.

**З успамінаў журналіста Германа Кірылава:** ***«Пра Янку ў вёсцы паважна казалі: «Яму будзе вялікая дарога ў жыцці. Здатны да навукі, разумнік. Быў завадатарам сярод моладзі, першым у песнях, танцах, забавах, у самадзейных канцэртах... Праз вузенькую палоску адталага шкла я бачыў, як двое энкаведыстаў вялі пад рукі Янку Рымдзёнка. Адзін ішоў ззаду, а другі -- наперадзе. Калі не ва ўсіх, то ў некаторых былі за плячыма аўтаматы. Яны нібы ўцякалі ад крыку, што ляцеў наўздагон ім з вёскі. Пра сібірскую катаргу ў народзе гаварылася як пра нешта замагільнае. Нездарма старая Рымдзёнчыха, адпраўляючы туды сына, аплаквала яго так, нібы праводзіла на той свет.»***


Антось Фурс і Віктар Стахоўскі (1956 г.).

Асіненка Ніна з маці. 1955 год.


**Віктар Стахоўскі.** Змалку цягнуўся да ведаў, цудоўна маляваў. Пакаранне за ўдзел у СБП скончылася для яго датэрмінова з-за цяжкай хваробы. Вярнуўся ў Паставы, жыў у нястачы. Завочна закончыў Маскоўскі інстытут культуры, працаваў дырэктарам РДК, рэжысёрам народнага тэатра, шмат сіл, як мастак, аддаў стварэнню Пастаўскага краязнаўчага музея. Заўчасна памёр з-за перанесеных у лагерах пакут і згубленага здароўя.

**З успамінаў Антона Фурса:** ***«Змрочныя лагерныя будні мне хоць крыху скрашвала сяброўства з харошым хлопцам, сябрам СБП Стахоўскім. Ён быў здольны, надзвычай развіты для сваіх гадоў юнак, славіўся, як мастак і паэт-пачатковец. Наша сяброўства не перапынялася ажно да яго заўчаснай смерці. Там, дзе вучыўся, а потым жыў, ён ніколі не баяўся глядзець людзям у вочы, бо ўсе мы з СБП нічога благога людзям не зрабілі, а марылі толькі пра добрае. Ужо цяжка хворы ён загарэўся ідэяй стварыць у Паставах краязнаўчы музей, пачаў збіраць матэрыялы і рыхтаваць экспазіцыі, але палітычнага вязня адхілілі ад працы, што Віктара моц-***

Ліна Бароўка. 1955 год.
*Першыя дні на святой волі.*


---

Прэзентацыя рубрыкі

## Як улада размаўляе з народам

**Наша газета, без перабольшвання,трапляе ў розныя куткі планеты. З цікавасцю і ўдзячнасцю мы чытаем чытацкія водгукі і слухаем тэлефанаванні з бліжэйшых і далейшых ваколіц. Рэакцыя чытачоў зразумелая: мы закранаем тэмы, якія хвалююць многіх жыхароў гэтага рэгіёна, вобласці, рэспублікі; пішам пра людскія лёсы і праўдзіва ўздымаем жыццёвыя праблемы.**

**Соф`я Міхайлаўна Табола з вёскі Заазерцы Шаркоўшчынскага раёна ў артыкуле «Шчырыя сэрцы маўчаць не маглі» прачытала пра свайго сваяка Алега Таболу, які быў сябрам Глыбоцкай групы Саюза Беларускіх Патрыётаў і адразу ж напісала нам. Усталявалася цесная сувязь з чытачкай. Соф`я Міхайлаўна доўгі час працавала бібліятэкарам. Добра ведае гісторыю краю і свае радавыя карані ажно да 16 стагоддзя. Яна назірае і занатоўвае падзеі, да якіх нераўнадушна яе сэрца. Сафія змагаецца за справядлівасць, дапамагае людзям і прыродзе і сваім жыццём пацвярджае права быць патрыёткай Бацькаўшчыны. Сёння С.М. Табола прапаноўвае чытачам новую рубрыку і матэрыялы ў яе, спадзеючыся на водгукі і людскую падтрымку.**

**1.** Бацька загінуўшага ў Афганістане салдата просіць у начальніка ўстанавіць тэлефон, бо жонка, пасля гібелі сына захварэла, часта трэба выклікаць «хуткую», турбаваць ноччу суседзяў. На гэта старшыня райвыканкама сказаў, што просьбу не задаволіць, бо няма тэхнічнай магчымасці. Калі чалавек стаў настойваць, напомніўшы, што аддаў Радзіме сына, старшыня райвыканкама адказаў: – ***«Дзеці разумных бацькоў ў Афганістан не траплялі!»***

**2.** Жанчына звярнулася за матэрыяльнай дапамогай у вясковы савет, і калі яна, маці 4-х сыноў паехала за ёй, сакратарка, выдаючы грошы, сказала: ***«Вы тут у такой «шубе» і за дапамогай прыходзіце!»*** Жанчына была нармальнай маці, гарэлкі не піла. А «шубе» той было 9-яць гадоў ад роду, і была яна са звычайнага штучнага меха.

**3.** Сына настаўніцы В.Г., які служыў у войску ў г. Полацку, скалечылі за тое, што ён адмовіўся «збіраць даніну» з «салажат»-навабранцаў. Калі на судзе маці салдата папрасіла слова, суддзя сказаў: ***«Адно слова і я вас выдалю з залы суда, вы -- бок не пацярпелы».***

**4.** Дзяўчынка з сям`і алкаголікаў не мае грошай, каб купіць сшытка. Зрабіла яго хоць і нязграбны, з чыстых лістоў старых сшыткаў свайго брата, які ўжо скончыў школу і служыў у войску. Настаўніца разарвала сшытак на вачах у дзяцей. Калі школьніца плачучы сказала, што ў яе няма грошай, настаўніца адказала: ***«Гэта твае праблемы».***

---

## Хутка будзе Усебеларускі З`езд

Ці будзе Беларусь заможнай квітнеючай краінай? Такое пытанне задаюць шматлікія прадстаўнікі беларускай грамадскасці. Але як можна адказваць на такое пытанне, калі Беларусь рэальна стаіць на мяжы згубы сваёй дзяржаўнасці і суверэнітэту. Інтэграцыйная ліхаманка, якая ўжо пяць гадоў свідруе свядомасць народа, можа перакрэсліць шматвяковую мару патрыётаў гэтай зямлі.

Не дапусціць паглынання Беларусі суседняй дзяржавай -- гэта адна мэт маючага адбыцца Усебеларускага З`езда. Ініцыятарам правядзення яго сталі вядомыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі, сярод якіх Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін. Створаны аргкамітэт З`езду. Глыбокае не стаіць у баку ад гэтай важнай, лёсавызначальнай падзеі. З мэтай падрыхтоўкі да гэта падзеі ў нашым раёне створана ініцыятыўная група з пяці чалавек.

На з`езд будуць вылучаны дэлегаты. Мяркуецца, што ад Глыбоччыны іх паедзе пяць. Вылучаюцца яны метадам збору подпісаў: адзін дэлегат ад 10 тысяч выбаршчыкаў, за якога трэба сабраць не менш ста подпісаў.

З`езд будзе прадстаўнічы, на яго збяруцца дэлегаты з усіх куткоў Беларусі, госці з далёкага і блізкага замежжа.

Пакуль дакладная дата правядзення З`езду не вызначана. Першапачаткова меркавалася яго правесці ў сярэдзіне чэрвеня, аднак, пэўная частка арганізатараў настойвае на ліпені, каб прымеркаваць яго да Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь (27 ліпеня).

Найбольшую актыўнасць па правядзенню З`езда праяўляюць грамадскія арганізацыі Віцебшчыны.

«Вольнае Глыбокае» будзе пастаянна інфармаваць сваіх чытачоў аб падрыхтоўцы і правядзенні гэтай знамянальнай падзеі.

*Л. Гілеўскі*

## ЖЫЦЦЁ ЯКОЕ ЯНО ЁСЦЬ

**Што ні пішаш пра ўладу, так многа слоў трэба браць у двухкоссе: «паабяцалі», «абнадзеілі», «адказалі», «дапамаглі» і г.д. Можа лепш само слова «ўлада» браць у двухкоссе?**

○ ○ ○

**Што лягчэй, замаляваць: чорнае белым, або белае чорным? Не ведаю. Мабыць, усё можна замаляваць. Можа лепш адабраць фарбы ў мастакоў, якія любяць перамалёўваць і белае на чорнае, і чорнае на белае?**

***Сафія,***
***в. Заазерцы, Шаркоўшчынскі р-н***

Ну і ну!

## Праект закона аб мабілізацыйнай падрыхтоўцы і мабілізацыі

Гэты праект адобраны 17 мая Палатай прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ. Пад мабілізацыйнай падрыхтоўкай разумеецца сукупнасць мер, якія прымаюцца ў мірны час па падрыхтоўцы эканомікі краіны, дзяржаўных органаў, Узброеных сіл, іншых вайсковых фарміраванняў, а таксама спецпадраздзяленняў, якія ствараюцца для работы ў ваенны час, з мэтай забеспячэння абароны суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці краіны. Так, напрыклад, у перыяд мабілізацыі і ў ваенны час грамадзяне Беларусі абавязаны з`явіцца па выкліку ў ваенкаматы, прадстаўляць уласныя будынкі, транспартныя сродкі... Згодна законапраекта, грамадзяне могуць быць прыцягнуты да выканання работ у мэтах забеспячэння абароны і бяспекі, а таксама залічвацца ў спецфарміраванні. Асобам, якія стаяць на воінскім уліку, з моманту аб'яўлення мабілізацыі забароны выезд з месца жыхарства без дазволу ваеннага камісарыята.

**P.S. Людзі нараджаюцца, каб жыць, а ў Беларусі ўсё ідзе да таго, што мы нараджаемся, каб ваяваць. З кім, за што, навошта, чаму?**

***Ю.Пацёмкін, БалаПАН***

## ЦЫТАТА АПОШНЯЙ ПАЛАСЫ

**Самое опасное в Беларуси -- это быть простым человеком. С ним любой милицейский патруль может сделать всё, что угодно, написать в протоколах и рапортах любую ложь, а суд, если человек не обладает служебным положением или связями, автоматически признает его виновным и накажет.**

*О. Груздилович,*
*«Наша свабода»*


Фота А. Ліпіна

Для многіх беларускіх дзяцей канікулы не час бесклапотнага і сытнага адпачынку, а час галадоўкі і нялёгкай працы.

## Навінкі з кніжнай паліцы

**Ю. Гарбінскі, «Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя. Жыццярысы, мартыралогія, успаміны»; Мінск -- Мюнхен, 1999 г., стар. 720, наклад 50 асобнікаў.**

Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны выдаў фундаментальную кнігу «Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя», аўтар-укладальнік Юрась Гарбінскі. Выданне прадстаўляе біяграфічныя звесткі шматлікіх рэлігійных дзеячоў як каталіцкага, так і праваслаўнага веравызнання. Тут прадстаўлены асобы, якія маюць непасрэднае дачыненне і да Глыбоччыны. Сярод іх, вядомы старэйшаму пакаленню, ксёндз-дзекан Антон Зянкевіч і праваслаўны дзеяч Янка Пачопка, ды іншыя.

*Ул. Скрабатун.*



## Да 2000-годдзя хрысціянства


Фота Ул. Скрабатуна

Глыбачане сустракаюць Вялікдзень

# «Памятай пра смерць і жыві»

**Што такое смерць? З пункту гледжання хрысціянскай рэлігіі вера ў уваскрэшанне пасля смерці і замяняе яго страхам перад карай за здзейсненыя пры жыцці грахі. Сёння ёсць шмат цікавых матэрыялаў, якія расказваюць аб жыцці пасля смерці. Выдадзены кнігі амерыканскага псіхатэрапеўта Рэймонда Моудзі «Жыццё пасля смерці», праваслаўнага багаслова, іераманаха Серафіма Роуза «Душа пасля смерці», прафесара Тэнескага універсітэта Марыуса Роулінгса «За парогам смерці». Раскажам пра некаторыя выпадкі, апісаныя ў гэтых даследваннях.**

## Загадкавая тайна

... У той дзень судзебны выканаўца Жарар Шуракі ехаў з хуткасцю 140 км., нягледзячы на лівень. Паслізнуўшыся на мокрым асфальце, аўтамабіль двойчы перакуліўся і даўся ў дрэва. Вадзіцель вылез з салона і ў гэты час другая аўтамашына збіла яго і падкінула ў паветра.

Аперацыі ішлі 18 гадзін. Пасля Ж. Шуракі згадваў:

-- Я адчуў, што лятаю над сваім целам, бачыў яго, спрабаваў упраўляць ім, але яно не рэагавала. Затым мяне зацягнуў нейкі калаварот. Было страшна. Я чуў крыкі, свіст, музыку. Затым усё супакоілася, і я ўбачыў чорную дзірку-уваход у тунель, мяне туды цягнула. Я ўплыў туды і рухаўся ўсляпую. Пакрысе пачаў разбіраць у глыбіні слабае святло... Яно рабілася ярчэйшым, я быў ім аслеплены.

Мне здавалася, што я стаў часцінкай космаса... Перада мной, як на экране, праходзіла ўсё маё жыццё. Я адчуваў сябе бясклапотным, спакойным. Раптам, успомніў родных і вырашыў вярнуцца. Прыйшоў у сябе і завыў ад болю...

Жарар вярнуўся да працы і жыцця, але жыве з неразгаданай тайнай у душы.

## Нейміручасць душы ці першаасновы?

Кардыёлаг М. Роулінгс вёў запісы аб паводзінах пацыентаў у першыя хвіліны пасля «ажыўлення». Былы атэіст Роўлінгс цяпер перакананы: на тым баку парога не пустэльня, а вечнасць...

Адзін мужчына расказваў аб тым, што сустрэўся са сваёй маці, якую не памятаў, бо яна памерла, калі яму не было і года. Калі ён прыйшоў у сябе, яму паказалі стары альбом, дзе ён на адным са здымкаў пазнаў жанчыну, з якой сустракаўся пасля смерці. Гэта была яго маці.

Ці яшчэ адно сведчанне. «Чую цудоўную мелодыю. Насустрач мне ідуць двое. Я пазнаю іх: гэта бацька і маці. Маме пры жыцці аднялі нагу, але тут яна ходзіць на дзвюх.

-- Вы добра выглядаеце,-- кажу ім.

-- І ты будзеш такім жа прыгожым,-- адказваюць яны.

Мы ідзём да будынка, які ўвесь свяціцца. Людзі моляцца.

-- Там Бог,-- тлумачыць мне.

Ніколі не бачыў такой прыгажосці і не адчуваў такога спакою».

Але падобныя гісторыі расказваюць не ўсе. Многія, вярнуўшыся да жыцця, трасуцца ад страху. Напрыклад, гэты расказ: «Я хутка нёсся па тунелю. Няяркія гукі, пах гнілля, вакол паўлюдзі. Убачыў уродлівую морду гіганта. Ён зрабіў знак падысці. Я закрычаў: «Ратуйце мяне!» З`явілася фігура ў бліскучым адзенні, і я адчуў у яе поглядзе: жыві інакш.

## Памятай пра смерць і жыві.

Пры ўсёй спрэчнасці прыведзеных вышэй выказванняў, нельга адмахвацца ад духоўнага, нябачнага свету. Жыццё -- каштоўны падарунак Божы і несці яго трэба беражліва, і жыць, не прыносячы злосці і няшчасця іншым.

*Па матэрыялах друку.*

Упершыню ў «ВОЛЬНЫМ ГЛЫБОКІМ»

# КРЫЖАВАНКА

**Склаў Дзмітрый Курцэвіч (в. Латыголь, Глыбоцкі раён)**

**Па вертыкалі:** **1.** Крытая галерэя з ганддёвымі памяшканнямі; **7.** Сігнал трывогі, які падаецца ўдарамі ў звон; **3.** Марка самалёта; **4.** Невялікае ўзвышша з роўнай паверхняй; **5.** Эксплуатацыя, прыгнёт; **7.** Паняцце колькасці, з дапамогай якога праводзіцца лічэнне; **8.** Адмысловая скрынка над жорнамі ў млыне, у якую засыпаюць збожжа для памолу; **14.** Прыязныя, добразычлівыя адносіны; **16.** Пэўны момант у развіцці чаго-небудзь; **17.** Прадмет жаданняў, памкненняў; **18.** Пышнасць, багацце; **19.** Круглае, аптычнае шкло для аднаго вока; **21.** Асоба, узнагароджаная ордэнам; **21.** Грашовае ўзнагароджанне, якое атрымоўваюць аўтары за свае творы; **25.** Хвароба коней і іншых аднакапытных; **26.** Вялікая пасудзіна для вадкасці; **27.** Выбуховае рэчыва; **28.** Рыбалоўная прылада: нерат з двумя крыламі; **32.** Белы клён; **33.** Прэстыжная міжнародная ўзнагарода за лепшы фільм года; **34.**Кіраўнік каталіцкага мужчынскага манастыра; **38.** Знешняя пярэдняя частка будынка; **39.** Халодная колючая зброя; **40.** Нашчадак ад шлюбу белых і неграў; **41.** Заслона, якая засцерагае што-небудзь ад уздзеяння шкодных праменняў, магнітнага поля; **43.** Арганічнае злучэнне кіслот са спіртамі; **44.** Перакрыццё ў форме дугі паміж дзвюма апорамі.

**Па гарызанталі:** **6.** Пахучая смала некаторых трапічных дрэў; **7.** Старадаўняя зброя для пускання стрэл; **9.** Лопасць параходнага кола, якой заграбаецца вада; **10.** Нота; **11.** Горад у Кыргызстане; **12.** Расціранне цела з лячэбнымі мэтамі; **13.** Вялікая сума грошай; **15.** Цяж з тоўстага дроту ад аглоблі да пярэдняй восі; **20.** Апарат для друкавання копій з чарцяжоў, рукапісаў, малюнкаў; **23.** Найменшая часцінка хімічнага элемента, якая з`яўляецца носьбітам яго ўласцівасцей; **24.** Расплаўленая маса, якая вывяргаецца вулканам; **25.** Наўмысны зрыў работы; **29.** Вярхняя частка дрэва; **30.** Маладая трава, якая вырасла на месцы скошанай у той жа год; **31.** Прыступак у печы; **35.** Чашачныя рычаговыя вагі для ўзважвання малых доз чаго-небудзь; **36.** Забарона, адмена якіх-небудзь рашэнняў; **37.** Прыстасаванне для паднясця цяжкіх прадметаў і рэчаў; **42.** Нізкі выступ, які аддзяляе авансцэну ад глядзельнай залы; **43.** Момант, з якога вядзецца летазлічэнне; **45.** Пасудзіна з ліпавага ці іншага лубу ў форме каробкі; **46.** Замак, у якім быў зняволены граф Монтэ-Крыста; **47.** Нота; **48.** Пэўны парадак у следаванні, руху чаго-небудзь; **49.** Зварот у суд; **50.** Прылада, якой у старажытнасці разбівалі сцены крэпасці.





**Набывайце «Вольнае Глыбокае» ў кіёсках «Саюздруку»!**


«ВОЛЬНАЕ ГЛЫБОКАЕ»
Незалежная рэгіянальная газета.
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун
Рэдактар: Галіна Сутула

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №1099, выдадзена Дзяржаўным Камітэтам Рэспублікі па друку 25 верасня 1998 года

Газета выходзіць два разы на месяц. Аб'ём -- друкаваны аркуш. Падпісана ў друк 29 траўня 2000 года ў 13-30.

Меркаванні рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў.

Юрыдычны адрас: 211800, г. Глыбокае, вул. Маскоўская, 121

Тэлефон: 23754 (Галіна СУТУЛА)

Наклад 1000 паасобнікаў

Адрас для допісаў: 211800, г. Глыбокае, вул. Валадарскага, 67.

Надрукавана ў Наваполацкай узбуйненай друкарні: г. Наваполацк. вул. Блахіна, 26 Замова 3488